Ю.Захарэнко: «Сбросьте маски, господа! Пока их с вас не сорвали» *(стар. 4-5)*

С.Наумчик: «Почему Пазьняк не в тюрьме» *(стар. 2)*

(стар. 4-5) (стар. 2)

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 42.500
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

17 траўня 1996 г. № 35 Кошт свабодны

# Хадыка і Сіўчык галадаюць 20-я суткі

## *У Сіўчыка адмовіліся працаваць ныркі*

**Па звестках на ўчарашнюю раніцу (16 траўня), арыштаваныя лідэры БНФ Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык працягвалі галадоўку пратэсту.**

В.Сіўчык ужо знаходзіцца ў вельмі крытычным стане. 15 траўня ў яго адмовіліся працаваць ныркі і ён быў пераведзены са следчага ізалятара ў турэмны шпіталь на вул. Кальварыйскай, дзе знаходзіцца ў рэанімацыі пад кропельніцай.

Напярэдадні (14 траўня) улады ўпершыню дазволілі жонкам арыштаваных сустрэцца са зняволенымі. Жонка В.Сіўчыка расказвае, што Вячаслаў катэгарычна адмаўляецца спыніць галадоўку, паколькі ў турэмных умовах "выйсці з галадоўкі" практычна немагчыма, бо вынік можа быць трагічны (як вядома, гэты працэс патрабуе вельмі кваліфікаванага медыцынскага нагляду, ужывання адлаведных вітамінаў, сокаў і г.д.).

Стан здароўя Ю.Хадыкі таксама пагоршыўся. Юры Віктаравіч, па словах яго жонкі, страціў 18 кг вагі, але трымаецца вельмі мужна. Больш за ўсё ён скардзіцца на адсутнасць інфармацыі (арыштаваным забаронена ўсё, нават газеты).

Кожны дзень родныя, сваякі і сябры арыштаваных стаяць у пікеце (у скверы, што побач з СІЗО) і збіраюць подпісы грамадзянаў за вызваленне Ю.Хадыкі і В.Сіўчыка. Пікет выстаўляецца двойчы на дзень: з 8:45 да 9:.45 і з 16:30 да 17:30.

Кіраўнік следчай групы Свірыдовіч катэгарычна адхіліў просьбу СВАБОДЫ дазволіць хаця б кароткае інтэрв'ю з Ю.Хадыкам і В.Сіўчыкам.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

**14 траўня ўсе падыходы да будынка адміністрацыі прэзідэнта былі перакрыты кардонамі міліцыі.**

Людзі, якія прыйшлі патрабаваць ад прэзідэнта вызвалення Ю.Хадыкі і В.Сіўчыка, сталі перад кардонамі на праспекце Скарыны (насупраць адміністрацыі) і скандзіравалі: "Свабоду! Свабоду!.." Сабралося прыблізна 2-3 тысячы чалавек. Потым (а 18-й гадзіне) калона стыхійна рушыла ў бок плошчы Незалежнасці, але каля паштамта людзей сустрэў спецназ і дэманстранты павярнулі па вул. Валадарскага да турмы, дзе ў атачэнні міліцыянтаў да 20:30 адбывалася стыхійная акцыя пратэсту. Па дарозе было некалькі сутычак з міліцыяй *(гл. здымкі)*.









# Збіраюцца подпісы дэпутатаў у абарону арыштаваных

## *Дэпутат ад фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» Людміла Гразнова 16 траўня выступіла на сесіі ВС у «Розным» наконт сітуацыі з арыштаванымі Хадыкам і Сіўчыкам*

"Вярхоўны Савет павінен паказаць, што ён з'яўляецца Вярхоўным Саветам, што ён мае свой уласны голас, стаіць на варце закона і змагаецца за правы чалавека, — сказала Л.Гразнова. — Размова ідзе аб двух чалавеках, якія знаходзяцца ў следчым ізалятары, людзях, якія знаходзяцца на мяжы жыцця і смерці. Мы цяпер павінны прадпрыняць тое, што было б зусім натуральным для нас — падтрымаць гэтых людзей і дабіцца іх вызвалення са следчага ізалятара, паказаць, што мы сапраўды з'яўляемся абаронцамі правоў чалавека, абаронцамі нашых грамадзян, абаронцамі ад беззаконня". Людміла Гразнова паведаміла, што яна збірае подпісы дэпутатаў пад заявай на імя Генеральнага пракурора Васіля Капітана. "Просім Вас неадкладна вырашыць пытанне аб вызваленні Хадыкі і Сіўчыка з-пад варты і даць ім магчымасць для выздараўлення", — гаворыцца ў заяве на імя пракурора.

На 12 гадзін учарашняга дня дня пад гэтым зваротам было сабрана каля сарака подпісаў дэпутатаў, што, паводле рэгламенту, дастаткова для ўнясення пытання ў парадак дня сесіі.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

# «Грамадзянскае дзеянне» прапануе новыя парламенцкія выбары

**16 мая дэпутат ВС Анатоль Лябедзька, выступаючы ад імя фракцыі "Грамадзянскае дзеянне", прапанаваў уключыць у парадак дня сесіі пытанне "Аб спыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета і прызначэнні новых выбараў на снежань 1996 года".**

"Сёння Вярхоўны Савет не выконвае ніводнай з функцый вышэйшага заканадаўчага органа краіны", — заявіў дэпутат, абгрунтоўваючы сваю прапанову.

"Можа, хоць такая пастаноўка пытання прымусіць дэпутатаў прачнуцца і падумаць. Пасля галасавання 4 мая, калі рашаліся кадравыя пытанні, я перастаю верыць у Вярхоўны Савет," — сказаў Аляксандр Дабравольскі. А Віктар Ганчар падзяліўся сваімі ўражаннямі аб сустрэчы з выбаршчыкамі, заявіўшы, што адносіны людзей да парламента "радыкальна змяніліся".

Усе гэтыя аргументы, аднак, ніяк не паўплывалі на парламенцкую большасць. За ўнясенне пытання ў парадак дня прагаласавала 27 дэпутатаў. Не прайшла і прапанова Лябедзькі заслухаць справаздачу прэзідыума Вярхоўнага Савета, якую падтрымала 97 парламентарыяў (для прыняцця рашэння не хапіла трох галасоў).

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

***СКАНДАЛ***

# 14 траўня ў Мінску спецслужбы затрымалі дэлегацыю польскай «Салідарнасці» на чале з яе лідарам і дэпартавалі з Беларусі

**Пра факт затрымання лідэраў "Салідарнасці" рэдакцыя даведалася амаль адразу — праз паўгадзіны пасля таго, як іх забралі.**

Першую інфармацыю мы атрымалі па тэлефоне ад супрацоўніка Свабоднага прафсаюза Беларусі (СПБ) Валерыя Буйвала, які суправаджаў замежных гасцей і разам з імі быў затрыманы.

Гэта здарылася ў 14:50 каля рэстарана "Патсдам". Людзі ў цывільным (8 чалавек) узялі ў кальцо Мар'яна Кшаклеўскага, яго дарадцу Яўгена Пачыньскага, загадчыка міжнароднага аддзела "Салідарнасці" Анджэя Адамчыка, іхняга шафёра, а таксама Валерыя Буйвала і сілаю запіхнулі ўсіх у мікрааўтобус. Па словах сп.Буйвала, невядомыя паводзілі сябе вельмі бесцырымонна. Яны нават не прадставіліся і не назвалі прычыны затрымання. Толькі адзін з іх, сівавалосы мужчына, паказаў нейкую паперку (без фотаздымка і прозвішча), з грыфам міністэрства ўнутраных справаў.

*(Працяг на стар. 2)*

Нота польскага МЗС да беларускіх уладаў па справе Мар'яна Кшаклеўскага паводле дыпламатычных канонаў ацэньваецца як вострая і катэгарычная.

Прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі, які знаходзіцца з візітам у Румыніі, падтрымаў яе. Ён, у прыватнасці, сказаў, што *"такія выпадкі кладуцца ценем на дачыненні Польшчы і Беларусі"*. Прэзідэнт выказаў таксама надзею, што *"пасля высвятлення ўсіх акалічнасцей можна будзе рабіць палітычныя захады дзеля таго, каб такія выпадкі больш не мелі месца"*.

Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч паведаміў, што польскія ўлады *"змушаны рашуча дамагацца выканання правоў і свабод грамадзян, тым больш, калі гэта датычыць грамадзян Польшчы"*.

Старшыня сеймавай камісіі па замежных справах Браніслаў Герэмек назваў здарэнне *"абуральным, якое можа мець негатыўны ўплыў на двухбаковыя стасункі"*. Ён таксама падкрэсліў, што *"Польшча і польскія палітыкі павінны прызнаваць незалежнасць і суверэнітэт Беларусі як істотную вартасць, але калі бароняцца ўніверсальныя прынцыпы – гэта нельга лічыць умяшаннем ва ўнутраныя справы іншай краіны"*. Дарэчы, і кіруючая кааліцыя, і апазіцыя ў польскім Сейме аднадушныя ў ацэнцы здарэння: гэта — міжнародны скандал.

Адрэагавала на інцыдэнт у Мінску і Міжнародная канфедэрацыя свабодных прафсаюзаў, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Бруселі. Сакратар гэтай арганізацыі Біл Джордан заявіў, што ад імя Канфедэрацыі скарга будзе накіравана ў Міжнародную арганізацыю працы.

Падтрымку мінскім уладам выказаў толькі А.Пацёмкін, карэспандэнт ІТАР-ТАСС у Варшаве, які ў сваёй карэспандэнцыі кампанію пратэсту супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі назваў "умяшаннем у яе ўнутраныя справы".

**С. А.**

**Калі вы хочаце гарантавана атрымліваць кожны нумар нашай газеты, найлепшы варыянт — аформіць падпіску. Цяпер якраз праводзіцца падпісная кампанія на II паўгоддзе 1996 г. Выпісаць СВАБОДУ можна ў любым паштовым аддзяленні. Наш падпісны індэкс 63887.**

Кошт падпіскі:
1 месяц — 10.000 руб.
3 месяцы — 30.000 руб.
6 месяцаў — 60.000 руб.
Падпіска завяршаецца **15** чэрвеня.

# Заява польскага МЗС

14 траўня ў Мінску беларускімі органамі бяспекі была затрымаая дэлегацыя незалежнага прафсаюза "Салідарнасць" на чале са старшынёю Мар'янам Кшаклеўскім. Затрыманне адбылося падчас рэалізацыі афіцыйнай праграмы візіту па запрашэнні Свабодных прафсаюзаў Беларусі. Членам дэлегацыі было заяўлена, што яны з'яўляюцца "персонамі нон грата" на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У суправаджэнні канвою яны былі дастаўлены да дзяржаўнай мяжы.

Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Польшча пастаянна інфармавала аб гэтых падзеях прэзідэнта Рэспублікі Польшча, які знаходзіцца за межамі краіны, і прэм'ер-міністра.

Пасля атрымання пацвярджэння інфармацыі аб арышце дэлегацыі Незалежных прафсаюзаў "Салідарнасць" амбасада Рэспублікі Польшча ў Мінску неадкладна прыняла меры, мэтаю якіх было вызваленне затрыманых. Адначасова намеснікам міністра замежных справаў Рэспублікі Польшча сп.Анджэем Тоўпікам быў выкліканы ў міністэрства часовы павераны ў справах Рэспублікі Беларусь ў РП сп.Мячыслаў Часноўскі, якому была ўручаная нота пратэсту.

Выказваючы сваё глыбокае абурэнне, міністэрства замежных справаў Рэспублікі Польшча канстатавала, што "дзеянні беларускіх уладаў з'яўляюцца парушэннем прынцыпаў міжнароднага права, свабоды прафсаюзнай дзейнасці, а таксама прадстаўляюць сабою сур'ёзную пагрозу для сяброўскіх адносінаў паміж нашымі дзвюма краінамі.

Чакаем адказу на нашу ноту і высвятлення ўсіх абставінаў інцыдэнту з боку адпаведных уладаў Рэспублікі Беларусь."

# 14 траўня ў Мінску спецслужбы затрымалі дэлегацыю польскай «Салідарнасці»

*(Пачатак на стар. 1)*

У Партызанскім РАУС г.Мінска, куды іх прывезлі, члены польскай дэлегацыі даведаліся, што, аказваецца, яны парушылі пашпартны рэжым. В.Буйвала пасля праверкі дакументаў адпусціў.

Дзіўнае ў гэтай гісторыі тое, што першае абвінавачанне, звязанае з пашпартным рэжымам, праіснавала ўсяго адну гадзіну. У 16:00 органы інкрымінавалі палякам ужо іншую "крамолу": арганізацыя несанкцыянаванага мітынгу, а за гэта, маўляў, можам нават пасадзіць вас на 15 сутак.

Пад "несанкцыянаваным мітынгам" мелася на ўвазе 20-хвілінная размова польскіх прафсаюзных лідэраў з рабочымі мінскага завода аўтаматычных ліній, якая адбылася ў той дзень на школьным стадыёне (вул.Чапаева), што побач з прадпрыемствам. Напярэдадні Свабодны прафсаюз Беларусі дамовіўся з адміністрацыяй завода аб правядзенні сустрэчы паміж прафсаюзамі дзвюх краін на тэрыторыі прадпрыемства і нават усім гасцям былі выпісаныя пропускі. Але калі дэлегацыя прыехала да прахадной, іх чакала каманда міліцыянераў з аўтаматамі і работнікі КДБ. Прадстаўнікі заводскай адміністрацыі, спасылаючыся на загад міністэрства прамысловасці, адмовілі ў сустрэчы на тэрыторыі завода, а пропускі проста парвалі. Таму прафсаюзныя лідэры Беларусі і Польшчы вымушаныя былі гаварыць з рабочымі (50 чалавек) на стадыёне падчас абедзеннага перапынку.

Пасля пяці гадзін знаходжання ў міліцэйскім пастарунку членаў "Салідарнасці" пасадзілі ў машыну і дэпартавалі з краіны.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі 15 траўня старшыня СПБ Генадзь Быкаў, гэтая дэлегацыя польскай "Салідарнасці" прыбыла ў Беларусь з рабочым афіцыйным візітам згодна ранейшай дамоўленасці. У прыватнасці, прафсаюзы абедзвюх краін меліся абмеркаваць пытанні аб аздараўленні беларускіх дзяцей з Чарнобыльскай зоны на тэрыторыі Польшчы і супрацоўніцтве ў іншых накірунках сацыяльнай сферы.

Дзеянні беларускіх уладаў у адносінах да польскіх прафсаюзных лідэраў Г.Быкаў назваў "бандыцкімі". На ягоную думку, "толькі бандыты могуць хапаць людзей на вуліцах без усялякіх тлумачэнняў". Сп. Быкаў таксама заявіў, што, па ягоных звестках, аперацыю па захопу палякаў праводзілі непасрэдна людзі са службы бяспекі прэзідэнта і па яго асабістаму загаду. Бо, як лічыць лідэр СПБ, іншы чыноўнік не асмеліўся б учыняць міжнародны скандал. Гаворачы пра гэты інцыдэнт, сп.Быкаў заявіў, што Свабодны прафсаюз з дапамогай юрыстаў збірае фактычны матэрыял па ўсіх незаконных рэпрэсіях, якія праводзіць улада ў адносінах да людзей. "З часам усе выканаўцы сённяшняга дыктатарскага рэжыму панясуць адказнасць і зоймуць месца ў турэмнай камеры", — заявіў Г.Быкаў. Ён таксама адзначыў, што ў хуткім часе Свабодны прафсаюз звернецца да грамадзян Беларусі з заклікам "не падпарадкоўвацца людзям, якія іх затрымліваюць, не паказваючы дакументы". Па словах Быкава, дзеянні такіх "малойчыкаў антызаконныя і злачынныя, а ад злачынцаў трэба абараняцца".

Польскі консул Кшыштаф Длугаеўскі на прэс-канферэнцыі 15 траўня сказаў, што акцыя па затрыманні лідэраў польскага прафсаюза "нагадвае сюжэт з амерыканскага баевіка".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**




**"Для "Свабоды" і Беларусі жадаю большай свабоды. Мар'ян Кшаклеўскі".**

Гэтыя словы лідэр "Салідарнасці" напісаў пад наглядам беларускага канвою каля гатэля "Планета" і перадаў праз польскага журналіста, які знаходзіўся побач, у рэдакцыю СВАБОДЫ.

# Маніфестацыя каля консульства ў Беластоку

## *Тысячная маніфестацыя пратэсту адбылася ў сераду 15 траўня каля беларускага консульства ў Беластоку*

Дэманстранты прыйшлі з плакатамі "Свабоду Хадыку і Сіўчыку", "Дапаможам сем'ям арыштаваных", "Свабоду беларускім свабодным прафсаюзам" і інш.

На мітынгу выступіў дэпартаваны з Беларусі лідэр "Салідарнасці" М.Кшаклеўскі.

Беларускаму консулу М.Слямнёву, які выйшаў да маніфестантаў, была ўручаная заява пратэсту.

**В. В.**

# Еўрапейскія сацыял-дэмакраты пратэстуюць

## *11-12 траўня ў Вільні адбылася канферэнцыя 14 сацыял-дэмакратычных партый Еўропы*

Кіраўнікі сацыял-дэмакратычных партый Украіны, Літвы, Польшчы і Расіі прынялі там заяву ў сувязі з падзеямі у Беларусі. У дакуменце асуджаюцца дзеянні прэзідэнта Лукашэнкі і беларускага парламента, які "паказвае тэндэнцыю пераўтварыцца ў машыну для галасавання і падтрымкі любых прапановаў прэзідэнта". Сацыял-дэмакраты заклікалі сацыял-дэмакратычныя партыі і ўрады Еўропы "праявіць салідарнасць з беларускай дэмакратыяй" і "адпаведна будаваць свае ўзаемаадносіны з кіраўніцтвам Беларусі".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# «Пінскі веснік» пайшоў пад нож

**Увесь тыраж 31-га нумара газеты "Пінскі веснік" (3,5 тыс. экземпляраў) быў канфіскаваны з мясцовага "Саюздруку" і адвезены на макулатуру.**

Ліквідацыяй тыражу вымушана была займацца рэдактар газеты Марыя Ляшук. А прычына вельмі банальная — у гэтым нумары "Пінскага весніка", які з'яўляецца органам мясцовай улады, быў надрукаваны парадак дня чарговай сесіі райсавета і пункт 4 быў напісаны наступным чынам: "Об утверждении программы приватизации коммунальной собственности г.Пинска на 1996 г.". Тыраж давялося друкаваць нанова, і газета выйшла на наступны дзень, але ўжо без крамольнай літары "х".

**Павел АЛЯХНОВІЧ**

# Гадзіннікавы завод узбунтаваўся

**Учора раніцай (16 траўня) на Мінскім гадзіннікавым заводзе выбухнуў стыхійны мітынг, які доўжыўся тры гадзіны.**

Каля 2 тыс. рабочых першай змены, пакінуўшы рабочыя месцы, сабраліся на тэрыторыі прадпрыемства і запатрабавалі выплаціць зарплату за сакавік. Дырэктар завода паабяцаў, што да канца гэтага месяца грошы будуць выплачаныя. Аднак работнікі, не верачы абяцанням кіраўніка, спрабавалі выйсці на вуліцы Мінска, каб там прадоўжыць мітынг і такім чынам прыцягнуць да сябе ўвагу людзей. Але прэзідэнт акцыянернага таварыства У.Абрамчык і дырэктар завода А.Сцяпанаў разам з аховай сталі перад варотамі прахадной і нікога не выпускалі. Рабочыя не наважыліся штурмаваць прахадную.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Почему Пазьняк не в тюрьме

**Сергей НАУМЧИК**



Внимание, проявленное обозревателями некоторых изданий к теме "эмиграции" Зенона Пазьняка и автора этих строк оказалось для меня, признатьсе, непредвиденным. Особенно растрогал интерес к Пазьняку газеты "Имя" (до этого она упорно и показно игнорировала лидера БНФ, гораздо больше внимание уделяя годовалому сыну Богданкевича или расцветке галстуков Карпенко и Гончара). Что ни говорите, а долгое отсутсвие на Родине бывает полезным хотя бы потому, что некоторые казавшиеся дружественными коллеги вдруг предстают в неожиданном качестве. Впрочем, в таком ли уж неожиданном?

Вначале — цитаты. У Федуты: *"— Нет арестов? А ведь могли бы быть, если бы мы не уехали! — Спрашивается, как весь этот бред опровергнуть?", "На митинге 2 апреля вождя не было. Он уехал рассказывать о сложившейся в Беларуси ситуации Европе", "совершать революции, сидя при этом в сытой демократической Европе", "Александр Григорьевич с Зеноном Станиславовичем — близнецы-братья", "Они одинаковы — Лукашенко и Пазьняк. Один усиленно усердно реанимирует СССР, другой — не менее усердно — Великое княжество Литовское"*, и наконец — *"вынужден заявить: похоже, в лице Александра Лукашенко оппозиция получила именно того президента, которого она заслужила"*.

Для сравнения процитирую Заметалина: *"Пазьняка и Наумчика ни правоохранительные органы, ни спецслужбы Беларуси не преследуют", "Пазьняк вынужден искать политическую нишу за пределами Беларуси", "революции, как правило, готовятся господами, называющими себя в изгнании"*.

Невольно теряешься в воспоминаниях: это Заметалин сменил Федуту на посту "министра правды" у Лукашенко или наоборот — Федута сменил Заметалина? Или нет: Заметалин был сначала у Кебича, а у Лукашенко был вначале Федута, а потом уже Заметалин. Не удивлюсь, если следующим после Лукашенко президентом будет Кебич, а пресс-секретарем у него — Федута.

Между прочим, Федута не совсем точен, заявляя, что нынешнего президента оппозиция "получила". Лукашенко не с неба свалился — его настоятельно подсовывали народу некоторые молодые амбициозные деятели, желавшие получить солидные портфели и для себя. Не хочу называть их политиками — политики обязаны просчитывать последствия своих действий.

Я не знаю, кто в БНФ придумал версию о "плановой информационной поездке" и для чего некоторым активистам Фронта понадобилось скрывать от журналистов известные им факты о планах властей в отношении Пазьняка и меня. Поводом избрали события у телецентра 24 марта: прокурор города Куприянов заявил о возбуждении уголовного дела по статье 186 (3), а мне еще "шили" и статью 188 (2) ("Вмешательство в действия работника милиции при выполнении им служебных обязанностей") за призывы к бойцам ОМОНа, спецназа и к милиции не выполнять преступные приказы их командиров. Кстати, уже вечером 24-го нас предупредили, что готовятся аресты и что могут применить психотропные средства. (Полагаю, после арестов 26 апреля Федута уже не станет называть такие заявления "бредом". А сотрудникам газеты "Имя" советую побеседовать с их постоянным автором Владимиром Глодом, передавшим в репортаже на радио "Свобода", что Лукашенко особенно сильно распекал шефа КГБ — за то, что дал "уйти" Пазьняку, а министра внутренних дел — из-за того, что ОМОН не "переломил шеи".)

Так что же оставалось — прийти и сдаться? Если бы я, не приведи Господь, подбил на автомобиле человека — тогда конечно. Но то, что инкриминируют нам, что инкриминируют Ходыко и Сивчику — это политическое преследование. А правосудие, действующее только в сторону оппонентов власти — не что иное, как судилище. И играть в такое "правосудие" с властями — все равно, что мышке играться с кошкой — результат предопределен.

Вламывание в дверь квартиры, спецмашины у подъездов и у штаб-квартиры БНФ, шантаж наших родственников и слежка за нами — все это было после 24 марта. К счастью, нам удалось уйти. Или, если так уж хочется некоторым журналистам — удалось "сбежать".

И то, что после митинга 26 апреля Пазьняк ушел "абсолютно не пострадавшим" — должно ставиться не в вину Пазьняку, а в заслугу руководству БНФ, которое потребовало от Пазьняка уйти в безопасное место и сумело такой уход обеспечить.

*(Продолжение на стр. 4)*

# У Магілёве зачыняюцца кіёскі

## *50 магілёўскіх прадпрымальнікаў спынілі працу сваіх гандлёвых кропак*

Камерсанты пратэстуюць супраць палітыкі ўладаў, якая "паставіла недзяржаўны бізнес на мяжу спусташэння". Пра гэта гаворыцца ў заяве прадпрымальнікаў.

Яны абураюцца безупыннымі загадамі гарадскіх уладаў "пра змены кіёскаў, касавых апаратаў, ліцэнзіяў на гандль і г.д. Каб прыцісінуць прадпрымальнікаў, дзяржчыноўнікі ідуць нават на шкоду бюджэту, а гэта нявыплата пенсіяў, дапамог, стыпендыяў, адсутнасць сродкаў на ўтрыманне вуліц, школ, бальніц." "Забастоўшчыкі" патрабуюць аднавіць дазвол на гандль алкагольнымі і тытунёвымі вырабамі для прыватнікаў, адхіліць ад работы чыноўнікаў, вінаватых у нявыдачы ліцэнзіяў, спыніць імклівае падвышэнне арэнднай платы за карыстанне камунальнай маёмасцю і перастаць трэціраваць гандляроў штогадовымі зменамі тыпаў кіёскаў.

Магілёўскія біснесмены заяўляюць, што адновяць працу толькі пры ўмове выканання патрабаванняў. Паказальна, што да гэтай "паўсотні" далучылася яшчэ столькі ж, а мо і болей прадпрымальнікаў, чые шапікі ў апошнія дні павальна зачыніліся.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

# NATO як люстэрка...

У шмат якіх дзеяннях беларускага кіраўніцтва назіраецца яркая тэндэнцыя да свядомага пагаршэння адносінаў з Захадам. Стаўленне да *NATO* — адзін з імпульсаў гэтага працэсу.

І малым ясна: Беларусь не існуе сама па сабе. Побач з намі знаходзяцца іншыя краіны, уплыў якіх на нас розны, але ён усё роўна ёсць. Карацей кажучы, мы знаходзімся ў сістэме ўзаемасувязяў, дзе не існуе вакуума. Гэта як у камунальнай кватэры: ці вы сябруеце з суседзямі, ці яны ставяцца да вас варожа, нават калі вы стараецеся іх не заўважаць і не чапаць.

Калі параўнаць нашыя адносіны з Усходам і з Захадам, то бачны велізарны дысбаланс. Больш таго, бачна, што наколькі мы паслядоўна ўзмацняем адносіны з Усходам, настолькі ж мэтанакіравана псуем нашыя дачыненні з Захадам. А гэта ўжо не патлумачыш. Найбольш паказальна тэндэнцыя высвецілася ў стаўленні да *NATO*. Заўважце: антынатаўская істэрыя літаральна захапіла як палітычнае кіраўніцтва Беларусі, так і абслугоўваючых яго прапагандыстаў — журналістаў якраз у той момант, калі Барыс Ельцын пачаў актыўна разыгрываць антынатаўскую карту ў сваёй перадвыбарчай барацьбе за галасы простых расійскіх грамадзянаў. Тых самых, якім са свайго Пад'ейска нікуды ў жыцці не выехаць, але якія прызвычаіліся адчуваць сябе ў вялікай краіне, якую ўсе баяцца і якой адначасова ўсе пагражаюць. Беларускі прэзідэнт, калі ўзгадаць храналогію падзеяў, таксама пачаў адраджаць вобраз ворага менавіта з *NATO*. Беларусь апошняй далучылася да натаўскай праграмы "Партнёрства дзеля міру". Прыблізна раз у кожныя тры месяцы Лукашэнка ў публічных прамовах накідваўся на "альянс" за тое, што той не збіраецца раззбройвацца, а апошнім часам пачаў пагражаць "адэкватнымі мерамі", калі *NATO* размесціць ядзерную зброю ў Польшчы. Як бачна, вельмі дарэчы тут аказаліся апошнія беларуска-польскія інцыдэнты: спачатку рэзкія і непрадбачлівыя выказванні С.Шарэцкага адносна Польшчы, цяпер вось затрыманне і дэпартацыя за межы дэлегацыі польскай "Салідарнасці". "Вораг" павінны мець канкрэтнае аблічча, ці не так? Чаму б у якасці ворага грамадству не прапанаваць вельмі блізкую нам па мове, па культуры, па гісторыі Польшчу, якая для многіх беларусаў і ўвасабляе Захад? А каб абгрунтаваць падазрэнні да гэтай краіны, раскручваецца тэза пра імкненне *NATO* ў Польшчу.

## Польшча

Між тым сітуацыя такая, што гэта Польшча, а таксама Чэхія, Венгрыя імкнуцца хутчэй патрапіць пад абарону паўночнаатлантычнага альянсу, а той усякімі спосабамі адцягвае момант, калі яму давядзецца ўзяць на сябе пэўныя абавязкі адносна ўсходніх суседзяў. Заходнія прагматыкі выдатна разумеюць, што цяпер уключэнне войскаў Польшчы, Чэхіі, Венгрыі ды іншых краінаў у калектыўную сістэму еўрапейскай бяспекі немагчыма і па тэхнічных прычынах: зброя, боезапасы, стандарты — усё супярэчыць іх практыцы. Ды нават з-за моўнага бар'еру вайсковую інтэграцыю даводзіцца адкладваць, не кажучы ўжо пра аграмадныя выдаткі, якіх будзе каштаваць Захаду такая "апека". Аднак Польшча фарсіруе працэс. Нават левы прэзідэнт А.Квасьнеўскі не спыніў перамоваў аб уступленні ў *NATO*, бо па вялікім рахунку гэта пытанне стратэгічнага выбару: Польшча ў Еўропе ці за яе межамі, адзін на адзін з пагражаючым ёй Усходам. Відавочна, што ваганне ў выбары для Квасьнеўскага можа каштаваць прэзідэнцкай пасады, і таму ён рашуча выказаўся за ўступленне ў альянс.

## Расія

Калі вынікам II сусветнай вайны стаў падзел Еўропы на зоны ўплыву СССР і ЗША, то вынікам халоднай вайны, якую СССР прайграў Захаду, непазбежна павінна стаць пашырэнне ўплыву Захаду на Усход. Цікава, што ў Расіі гэта прызнаюць як левыя, так і правыя, але і тыя, і другія з-за перадвыбарчых меркаванняў замоўчваюць гэтую ісціну. Быццам бы ўсё проста: прайграў — ачысці рынг. Але перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах можна толькі распаліўшы рэваншысцкія настроі, і вось ужо не толькі Жырыноўскі з Зюганавым, але і бліжэйшае атачэнне Ельцына дазваляе сабе пагрозы ў бок *NATO*. У першую чаргу — за кошт стварэння блока калектыўнай бяспекі краін СНД. Прычым, як адзначаюць з задавальненнем расійскія назіральнікі, іх словы не разыходзяцца з дзеяннямі. "Усходні вал" ужо, па сутнасці, створаны — падкрэслівае вядомы расійскі аналітык Аркадзь Мошэс: існуе сістэма супрацьпаветранай абароны, дзейнічае камітэт начальнікаў генеральных штабоў, у мінулым годзе Расія падпісала са сваімі суседзямі ажно 35 пагадненняў, якія юрыдычна замацавалі знаходжанне на іх тэрыторыі расійскіх вайсковых баз. Каб абгрунтаваць, неяк патлумачыць свету свае вайсковыя прыгатаванні ў памежных краінах, расійскія палітыкі аднагалосна сцвярджаюць пра неабходнасць стварэння двухполюснай сістэмы бяспекі ў Еўропе. Маўляў, толькі потым магчыма інтэграваць адну сістэму ў другую, аб'яднаць іх нейкія элементы і дасягнуць балансу, які будзе гарантаваць мір у Еўропе. Аднак праблема ў тым, што апору для сваёй сістэмы Расія спрабуе скласці з каменняў рознай пароды. Беларусь, Таджыкістан, Арменія — гэта вельмі хісткі падмурак для такога гіганта, як Расія. Лепшым была б для яе, канечне, Украіна, але тая пакуль трымаецца на асобнай пазіцыі.

## Украіна

Сёння гэта адзіная краіна ў Еўропе, якая не вызначылася адносна NATO. Умоўна ўсё проста: заходнікі — за альянс, усходнікі — за саюз з Расіяй, цэнтр за тое, каб захаваць і надалей пазаблокавасць Украіны, заручыўшыся дзеля гэтага гарантыямі як Захаду, так і Расіі. Складваецца ўражанне, што якраз нежаданне апошняй даваць Украіне нейкія гарантыі і дапамагае прэзідэнту Кучме трымаць сённяшнюю хісткую раўнавагу. Але ў Расіі застаюцца такія карты, як Крым і чарнаморскі флот, якія могуць парушыць у адзін момант існуючы баланс. Іх не выкарыстоўваюць пакуль толькі таму, што спадзяюцца на абвастрэнне сітуацыі знутры — ва Украіне заканчваецца тэрмін канстытуцыйнага пагаднення, якое гарантавала прэзідэнта Кучму абарону ад рэзкіх дзеянняў супраць яго з боку парламента. У чэрвені на верхняй палубе ўкраінскага карабля магчымы левы бунт, і тады як бы не паляцела ўся сістэма бяспекі ў сённяшняй Усходняй Еўропе.

## Беларусь

На думку многіх назіральнікаў, ключ да бяспекі усходнееўрапейскага рэгіёну знаходзіўся менавіта ў Беларусі. Але, "усходнееўрапейская супольнасць з-за асінхроннасці ў развіцці, у дэмакратычным рэфармаванні не стварылася", — лічыць, напрыклад, намеснік старшыні Сойму БНФ Вінцук Вячорка. На яго думку, гэтая пазіцыя сённяшняй Беларусі справакавала суседзяў адхіліцца ад ідэі ўсходнееўрапейскай супольнасці і цалкам павярнуцца да Захаду. "Стаўленне да *NATO* ўсіх краінаў нашага рэгіёна ёсць пытанне геапалітычнага выбару. Для Беларусі таксама. Паколькі сёння для нас не існуе пагрозы з Захаду, сапраўдная пагроза суверэнітэту краіны назіраецца толькі на Ўсходзе, то і стаўленне да *NATO* павінна змяніцца. Наш суверэнітэт можа забяспечыць толькі паўночнаатлантычны альянс", — сцвярджае Вінцук Вячорка.

Вядома, афіцыйная пазіцыя цалкам адрозніваецца. Пры гэтым ёй таксама не адмовіш у пэўнай лагічнасці. Хаця логіка яе распрацоўшчыкаў скіравана больш на тое, каб абгрунтаваць нашу залежнасць ад Расіі. Дарадца прэзідэнта Сяргей Посахаў заяўляе, як сапраўдны вайсковец, што набліжэнне *NATO* да межаў Беларусі прывядзе да эскалацыі вайсковых прыгатаванняў у нашай краіне: "Пачнуцца пошукі шпіёнаў, падрыхтоўка будучага тэатра вайсковых дзеянняў, якая не дасць праводзіць рэформы эканомікі". (Цікава, а якое *NATO* перашкаджае праводзіць іх цяпер?) У намесніка міністра замежных справаў Валерыя Цэпкалы яшчэ больш важкія — ядзерныя — аргументы супраць набліжэння *NATO*.

Ён выказваецца за атрыманне Беларуссю ад краінаў Захада "матэрыяльных" гарантыяў неразмяшчэння побач з нашымі межамі ядзернай зброі альянса. Галоўная з гэтых гарантыяў, відаць, наступная — прынцып бяз'ядзернасці *NATO*, згодна з якой альянс ліквідуе ядзерны патэнцыял у межах сваёй структуры, ядзернай зброяй валодаюць толькі ядзерныя краіны — члены *NATO*, а ўсе іншыя ўступаюць толькі ў палітычную структуру арганізацы. "Мілітарызаваная, эканамічна нестабільная Польшча можа з'яўляцца пагрозай бяспецы Беларусі", — сцвярджае намеснік міністра замежных справаў і выказваецца за шырокі дыялог з Польшчай на двухбаковай, а пры неабходнасці — і шматбаковай аснове. Цікава, што літаральна праз некалькі дзён пасля абнародавання гэтых прапановаў выбухнуў новы беларуска-польскі скандал, і зноў жа па віне нашага боку. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што нашыя суседзі і слухаць не хочуць аргументы, якімі мы іх пераконваем, каб яны не спяшаліся ў *NATO*... Для іх галоўны аргумент — наша ўнутраная палітыка, якая даказвае, што ў нашай асобе яны даўно маюць справы з той жа варожай ім Расіяй.

*P.S. Аўтар удзячны незалежнаму цэнтру стратэгічных ініцыятыў "Усход-Захад" за матэрыялы міжнароднай канферэнцыі "Еўрапейская бяспека: рэгіянальныя і глабальныя праблемы", якія былі выкарыстаныя ў артыкуле.*

**РЭЛІГІЯ**

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

# Хрыста хавалі ў шафе

На пачатку гэтага месяца ў Мінск прыбыў арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі. Ён заняў прыступку на іерархічнай лесвіцы, стаўшы паміж біскупам Аляксандрам Кашкевічам і кардыналам Казімірам Свёнтакам, які займае самую высокую пасаду ў беларускай каталіцкай царкве. А зусім нядаўна ў Гродне адбыўся навукова-душпастырскі сімпозіум, прысвечаны становішчу касцёла ў Беларусі, а таксама ў іншых постсавецкіх краінах. У нас каталіцтва зведала няпросты лёс.

## У чужую парафію – са сваім звычаем

Пасля захопу Расіяй беларускіх земляў у канцы XVIII ст. царскія ўлады напачатку не рабілі гвалту ў рэлігійным жыцці, не "лезли со своим уставом в чужой монастырь". Толькі пасля няўдалага паўстання дзекабрыстаў, калі наступілі рэакцыйныя часы, Мікалай I распрацаваў план паступовай ліквідацыі ў нас царкоўнай Уніі. Неўзабаве на землях былой Рэчы Паспалітай выбухнула вызвольнае паўстанне 1830-31 гг. Адразу пасля яго ўдушэння цар зачыніў 202 каталіцкія кляштары, немалую частку з якіх — на Беларусі.

Потым настала забарона Уніі. Наступным крокам цар абмежаваў колькасць ксяндзоў, узалежніў іх ад уладаў. (Як вядома, праваслаўная царква з'яўлялася ў Расіі адным з дзяржаўных інстытутаў.) Пасля паўстання 1863-64 гг. наступілі новыя рэпрэсіі. Тры ксяндзы з Лідскага павета былі пакараныя смерцю толькі за тое, што зачытвалі парафіянам адозвы паўстанскага ўрада. Як турма для ксяндзоў выкарыстоўваўся францысканскі кляштар у Гродне. Пазней шмат каго з іх саслалі ў Сібір.

Да канца XIX ст. колькасць каталіцкіх парафій толькі ў Мінскай губерні скарацілася напалову. Адабраныя кляштары і касцёлы перадаваліся праваслаўным уладам. Трыумф, аднак, быў часовы. Пазней, калі ўладу захапілі бальшавікі, яны аднолькава жорстка знішчылі і касцёл, і царкву.

## Пяцігодка змагання з рэлігіяй

У 1918 г. бальшавікі расстралялі на Беларусі першых двух ксяндзоў. У 1922 г. у Мінску адбыўся, таксама першы, "працэс ксяндзоў". Трох святароў засудзілі, але потым абмянялі з палякамі на камуністаў. Працэс ксяндзоў адбыўся таксама ў Маскве.

Святароў у лепшым разе высылалі ў Польшчу, але часцей — на Салаўкі, а таксама расстрэльвалі. Рабілася гэта паводле тайнага цыркуляра У.Леніна ад 1922 г. У 1932 г. была абвешчана пяцігодка ліквідацыі рэлігійнага жыцця, у выніку якой на Беларусі былі зачынены ўсе цэрквы і касцёлы. Тое ж самае было здзейснена ў маштабах СССР. Дарэчы, пры гэтым бальшавікі замардавалі таксама каля васьмі тысяч праваслаўных святароў і манаства. Усе каштоўныя рэчы з храмаў былі рэквізаваныя. Савецкія ўлады, між іншым, пакінулі толькі па адным касцёле ў Маскве і Ленінградзе — для абслугоўвання пасольстваў.

Адначасова з гэтым на Беларусі ў 1937-38 гг. НКВД правёў шырокамаштабную г.зв. "польскую аперацыю". З ярлыком "польскага шпіёна" была рэпрэсіравана 21.000 чалавек, з якіх 10 тысяч беларусаў, 9 тысяч палякаў, 1.000 габрэяў, 400 рускіх, 100 літоўцаў...

## Паміж агнём і полымем

Пасля заканчэння рэпрэсій святары змаглі паявіцца ва ўсходняй частцы Беларусі толькі ў 1941 г., калі Чырвоная армія адступіла з гэтай тэрыторыі. Аднак лёс іх чакаў пакутніцкі. НКВД працягваў сваю пяцігодку тэрору супраць святароў, якія таксама гінулі ад нямецкіх куль. Забівалі і каталіцкіх, і праваслаўных. Асабліва тых з іх, якія адкрыта выяўлялі сваю беларускасць. Дзясяткі іх імёнаў вядомыя, але не ўсе. Адных, напрыклад, забілі за тое, што не ўсталі падчас выканання нямецкага гімна. У Слоніме ксяндза расстралялі за ратаванне габрэяў, а ксяндзоў Кашыру і Ляшчэвіча спалілі ў стадоле з парафіянамі.

Усе гэтыя звесткі паведаміў у сваім рэфераце ксёндз-прафесар Тадэвуш Крахель з Беластока.

## Адраджэнне

У 1989 г. Рымскі Папа прызначыў апостальскім адміністратарам для каталікоў Беларусі Тадэвуша Кандрусевіча. Сам ён з Адэльска з-пад Гродна, служыў вікарыем у Вострабрамскай капліцы ў Вільні. Цяпер ён ужо некалькі гадоў жыве ў Маскве і апякуецца каталікамі ўсёй еўрапейскай часткі колішняга СССР.

Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч расказаў на сімпозіуме, як яму тады ўдавалася наладжваць рэлігійнае жыццё на Беларусі. Ён пры гэтым выказаў падзяку патрыяршаму экзарху ўсяе Беларусі Філарэту за ўзаемапаразуменне. Аказваецца, яны разам прамаўлялі і ў касцёлах, і ў цэрквах. Супольна даводзілася арцыбіскупу звяртацца да вернікаў з праваслаўным епіскапам у Магілёве на першым набажэнстве ў адрамантаванай каталіцкай капліцы.

"Рымскі Папа гаворыць аб аб'яднанні хрысціян, — нагадаў Тадэвуш Кандрусевіч.— Галоўныя канфесіі на Беларусі — гэта касцёл і царква. Яны могуць шмат зрабіць дзеля гэтай мэты супольна і павінны выканаць сваю місію, бо гісторыя нас усё адно спытае".

## Слухалі імшу па радыё

Да канца 1989 г. на Магілёўшчыне і Гомельшчыне не было аніводнага ксяндза. Бабруйскі ксёндз Раман Фалькоўскі падрыхтаваў паведамленне аб лёсе касцёла ў тых мясцінах. Кранаюць успаміны старых людзей, з якімі ён размаўляў. Напрыклад, у Шацілках (Светлагорску) касцёл зачынілі ў 1934г., і вернікі хадзілі патаемна маліцца ў лес. У той жа год перастаў існаваць касцёл у Жлобіне, і людзі змаглі трапіць на набажэнства толькі ў вайну, прычым да італьянскага ксяндза — капелана італьянскай вайсковай часці, якая кватаравала ў горадзе. А ў Магілёве хадзілі спавядацца ўвогуле да нямецкага вайсковага капелана.

Пасля заканчэння сталінізму каталікі сталі слухаць імшу па замежным радыё, а найбольш смелыя ездзілі зрэдку, каб наведаць касцёл, ажно ў Вільню.

Аднак не ўсё добра і сёння. Да 1917 г. на магілёўскім абшары было 45 касцёлаў, з якіх захаваліся толькі 9, а вернуты ўладамі ўсяго 2. Таму набажэнствы праводзяцца па хатах, на могілках, нават у адным выпадку ў закінутым доме. Усяго ў магілёўска-гомельскім рэгіёне каталіцкія набажэнствы адбываюцца сёння ў 34 месцах. У 20 з іх — раз на тыдзень, а ў астатніх — раз у месяц або па святах. Каб паўсюль паспець, ксяндзам даводзіцца ўлетку пераадольваць за тыдзень 1.200 кіламетраў, а ўзімку крыху менш — 900. Ксяндзы з Магілёва, дарэчы, мусяць таксама наведваць расійскія гарады Смаленск, Бранск, Калугу і Пскоў.

Завяршаючы гэтую тэму, арцыбіскуп Т.Кандрусевіч расказаў пра такі выпадак. У неспрыяльныя для вернікаў часы ў адным з магілёўскіх дамоў за шырмай у шафе перахоўвалася распяцце і іншыя святыя рэчы, якія некалі выкарыстоўваў у касцёле ксёндз падчас літургіі. Пра гэтую гісторыю было паведамлена на канферэнцыі ў Ватыкане, і італьянскія газеты падалі яе як сенсацыю пад загалоўкам "Найсвятыя сакраманты ў шафе". Яго эксцэленцыя падкрэсліў, што гісторыя касцёла на Беларусі гэткая ж складаная, як і гісторыя самой краіны — і мінулая, і сучасная.

## Ці прыедзе да нас Папа?

Ян Павел II рэгулярна бывае ў Польшчы, наведаў Літву і Славакію. На сімпозіуме ў Гродне вуснамі гродзенскага біскупа А.Кашкевіча было заяўлена, што "ўвесь каталіцкі касцёл у Беларусі чакае візіту Рымскага Папы". Вось толькі калі гэта можа адбыцца — пакуль невядома.

АФІША

# Ад пятніцы да пятніцы

Гэтым ціхім травеньскім тыднем 17-24 траўня асаблівых культурных сенсацыяў не прадбачыцца. Ніхто да нас з гастролямі не наведаецца, і тэатры нашыя не прапануюць прэм'ераў. Адчуваецца, што тэатральны сезон заканчваецца. Зрэшты, той, хто не з'едзе на лецішча ці "на прыроду", зможа нешта пабачыць. А менавіта:

**ТЭАТРЫ**

**Тэатр музычнай камедыі** прапануе 17 траўня "Вясёлую ўдаву" Ф.Легара. Сярод іншых аперэт "Вясёлая ўдава" вылучаецца асаблівай гарэзлівай меладычнасцю. 18 траўня пройдзе вечарына аднаактавых балетаў. У праграме — "Шапэніяна" Шапэна і "Шахерэзада" Рымскага-Корсакава. 19 траўня ў 11:30 для дзяцей даецца музычнае прадстаўленне — мюзікл У.Уланоўскага "Залатое кураня". Увечары таго ж дня — несмяротная аперэта Імрэ Кальмана "Марыца". 22 і 23 траўня пройдуць яшчэ дзве аперэты Кальмана —"Прынцэса цырка" і "Сільва". 24 траўня — шоў-імпрэза В.Мазур "Зоркі тэатра ззяюць для вас".

**У тэатры оперы і балета** 18 траўня пройдзе опера Дж.Вердзі "Рыгалета". 19-га раніцай дзеці змогуць паглядзець балет у 3-х дзеях "Тры парасяці" (паводле слыннай англійскай казкі), а вечарам пройдзе балет С.Пракоф'ева "Рамэа і Джульета". 21 траўня "Баль-маскарад", опера Дж.Вердзі. 22-га — 4-актны балет П.Чайкоўскага "Спячая прыгажуня". 17 траўня ў Оперным — вечарына аднаактавых балетаў, якая складаецца з вакальна-харэаграфічнага прадстаўлення К.Орфа "Карміна Бурана" (пастаноўка В.Елізар'ева) і з "Кармэн-сюіты" Бізэ і Шчадрына. Спалучэнне гісторыяў з жыцця буршаў і харэаграфічнага расповяду пра каханне Кармэн традыцыйна прываблівае шмат гледачоў, а таму пакла-паціцеся аб квітках загадзя.

**Тэатр імя Янкі Купалы** 17-18 траўня прапануе камедыю "Лес" паводле п'есы А.Астроўскага. Нехта назваў драматургію Астроўскага побытаапісальніцкай. У пастаноўцы Аўгуста Мілаванава камедыя стала яшчэ больш побытавай і менш філасафічнай. Зрэшты, некалькі ўдалых рэжысёрскіх прыёмаў робяць спектакль цалкам "глядзібельным". 19 траўня пройдзе "Паўлінка", якая перастала ўспрымацца інакш, як народны анекдот. А дарэмна. Некаторыя літаратуразнаўцы цвердзяць, што гэта самая сур'ёзная п'еса Купалы... 22 траўня можна пабачыць народную драму з часоў калектывізацыі "Крык на хутары" У.Бутрамеева. 23—24 траўня —трагікамічныя сцэны ў 2-х частках паводле купалаўскіх "Тутэйшых". Пастаноўка М.Пінігіна.

**У тэатры-студыі кінаакцёра** 18-19 траўня можна паглядзець спектакль паводле Е.Міровіча "Тэатр купца Епішкіна". 21-га пройдзе самая касавая меладрама ў Мінску — "Любовь зла" С.Шэпарда. 22 траўня — спектакль "Фантазіі па Гогалю". Гэта сапраўды фантазіі на тэму "Рэвізора".

**Муніцыпальны тэатр "Дзе-Я"** з'язджае на Эдынбургскі тэатральны фестываль са спектаклем паводле п'есы Ф.Аляхновіча "Круці не круці — трэба памярці". Зычым тэатру поспехаў на сцэне аднаго з самых прэстыжных тэа-фестываляў свету.

**КЛАСІКА**

Прапаную вашай увазе некалькі прыемных канцэртаў, якія пройдуць у залах філармоніі.

**У канцэртнай зале** 18 траўня ў гонар 60-годдзя Рэспубліканскага палаца піянераў і школьнікаў (цяпер гэта Нацыянальны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі) ладзіцца канцэрт узорнага харэаграфічнага ансамблю "Дзіця свету". 19 траўня пройдзе справаздачны канцэрт навучэнцаў беларускага ліцэя мастацтваў, у якім бяруць удзел хор, камерны аркестр і ансамбль ударных інструментаў ліцэя. 21 траўня Польскі інстытут у Мінску, нашае міністэрства культуры і філармонія ладзяць канцэрт "Музыка надзеі". Канцэрт будзе цалкам складацца з твораў Шапэна, якія выканаюць Алег ды Ігар Алоўнікавы (віяланчэль ды фартэпіяна). Дапаможа ім Тэрэза Чарыева (арфа). Удзел бяруць артысты Тэатра оперы і балета сп. Авечкін і сп-ня Кудраўцава. Гэта не першая імпрэза, якую ладзіць Польскі інстытут у Мінску. Сталічная публіка, пэўна, памятае вечарыны класічнай польскай і беларускай музыкі, дні польскага кіно, выставу польскага плаката, іншыя імпрэзы. Будзем спадзявацца, што "Музыка надзеі" пройдзе на такім жа высокім узроўні. 24 траўня аматары музыкі Брамса і Брукнера змогуць пачуць яе ў выкананні дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі і дзяржаўнай харавой капэлы імя Р.Шырмы.

**У зале камернай музыкі** 17-18 траўня пройдзе канцэрт арганнай музыкі. Уладзімір Самахвалаў выканае творы Баха. 25 траўня пройдзе такі ж мілы канцэрт для нешматлікай публікі — Алег Гардынец (цяпер бас, а раней добры спартсмен) і Аляксандр Мільто (арган) падораць слухачам музыку Баха, Гендэля, Моцарта, Кальдара, Вэрдзі, Ліцвіноўскага.

І абавязкова схадзіце на **РЭДКУЮ ВЫСТАВУ**

**Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі і Нацыянальны мастацкі музей Беларусі** ладзяць выставу "Мастацтва Пхейхуа" — карціны з жалеза. Не спрабуйце ўявіць, што гэта такое — лепш схадзіце і паглядзіце самі.

**Святлана СОЙКА**

## Субота 25 траўня

**Белорусское телевидение**
8.00 Новости.
8.15 Олимпийский силуэт. Теннис.
8.35 Сущность.
9.15 Здоровье.
9.50 Уроки Н.Новожиловой.
10.20 Все про все.
11.05 "Ералаш".
11.25 Мир природы и увлечений.
12.10 Путешественник.
12.40 Форум национальных культур Беларуси.
12.55 Многоголосие.
13.25 Европейская двадцатка MTV.
14.10 Коллаж.
14.40 Белорусский дом.
15.20 Форум национальных культур Беларуси.
15.40 Зорная ростань.
16.20 Четвертое измерение.
17.15 Форум национальных культур Беларуси.
17.30 Галерея.
18.00 Закрытие телефорума "Экомир-96".
19.20 "Анна Каренина". Х/ф. с. 1.
20.40 Колыбельная.
21.00 Новости.
21.40 Телефорум "Экомир-96".
21.55 "И корабль плывет". Х/ф. ч. 1.
23.15 Видимо-невидимо.
0.15 Темная комната.

**ОРТ**
7.00 "Ералаш".
7.20 Фильм "Я, Франциск Скорина...".
9.00, 14.00, 16.50 Новости.
9.15 Слово пастыря.
9.30 Не зевай!
10.00 Утренняя почта.
10.35 Смак.
10.55 Эрмитаж.
11.25 Фильм "Баллада о солдате".
12.50 Бомонд.
13.10 Умники и умницы.
14.20 Автомобиль и я.
14.40 Фильм-сказка ."Подарок черного колдуна".
15.40 Америка с М.Таратутой.
16.10 В мире животных.
17.15 Золотая серия. "Вокзал для двоих".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 Что? Где? Когда?
22.00 Дни.
22.45 Комедия "Ночь в опере".
0.30 Это было...было...

**Канал "Россия"**
7.00, 13.00, 19.00, 22.00, 22.25 Вести.
7.20 В этот день...
7.30 Всего понемногу.
8.20 Мультфильмы.
8.45 Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима.
9.00 Золотой ключик.
9.15 Продленка.
9.30 Устами младенца.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Доброе утро, Европа.
10.45 Путешествие "Инвайт".
11.00 Парламентская неделя.
11.45 Лицо с обложки.
12.00 Русское поле.
12.30 Поэт в России — больше, чем поэт.
13.20 Де факто.
13.50 "Женщина со средствами". Т/ф.
14.40 Бесконечное путешествие.
15.20 Песня России.
16.15 Антреприза.
17.10 Кому верить?
17.50 Мультфильм.
18.00 Двойной портрет.
19.35 Аншлаг и К.
20.30 Репортер.
20.45 Погода на завтра.
20.50 "Готика". Х/ф.
22.40 Субботний вечер.

**IV канал, НТВ**
7.00 Программа для христиан.
7.30 "Сокровища".
7.55 Грош в квадрате.
8.25 Анонс Семейного канала.
8.30 Нужные вещи.
8.50 Телегазета.
8.55 Семейный канал.
9.15 Домовладелец.
9.30 Медицина для вас.
9.55 Журнал журналов.
10.05 Пенсион.
10.10 Семейный канал.
10.30, 13.30, 16.45 СИВ.
10.40 Ноу-хау.
11.10 Солярис S.
11.25 В семейный блокнот.
11.50 Семейный канал.
12.10 Мультфильм для взрослых.
12.40 Д/ф "Неизвестные войны". Ф. 1. "Операция "Х".
13.35 С полуслова.
14.05 Время "Ч".
14.35 Автоледи.
15.20 Московитянин.
15.50 Карьера.
16.20 Пою для Вас...
16.25 СИВ. "Новости кино".
17.00 "Динозаврик по имени Динк".
17.30 Дог-шоу. Я и моя собака.
18.00, 21.00 Сегодня.
18.30 Характеры.
19.10 "Полиция Майами. Отдел нравов".
20.00 Намедни.
20.45 Куклы.
21.35 Мир кино. "Бразилия".
0.00 Третий глаз.
0.45 Плейбой.

**Санкт-Петербург**
8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ "Сейчас".
9.05 Страсти-мордасти.
9.20 Уик-энд с детективом.
9.50 "Музыка часов". Т/ф.
10.00 Честь имею.
10.20 Непознанное.
11.05 Стиль жизни.
11.10 Наобум.
11.40 По всей России.
11.55 Мы и банк.
12.15 Еще одна Россия.
12.40 Старое танго.
13.05 Уик-энд с детективом.
13.20 "Утро без отметок". Х/ф.
14.25 Солист.
15.05 Сокровища Петербурга. Эрмитаж.
15.20 Парадоксы истории.
15.50 Детское ТВ.
16.25 Баламуты.
16.55 Спортивное обозрение.
17.05 Плац-концерт духовых оркестров.
18.20 "Плохая примета". Х/ф.
19.05 Профессиональный бокс.
20.30 К Дню города.
21.05 Блеф-клуб.
21.45 "Колье Шарлотты". с. 2, 3.

## Нядзеля 26 траўня

**Белорусское телевидение**
8.00 "Про то, как..." Ф/к.
8.10 Колесо времени.
8.40 "Конон".
9.05 Фестиваль "Телебом" в Могилеве.
10.15 Студия "Колыбельная".
10.45 Праздничный автограф.
11.25 Все нормально, мама!
11.55 Турообъектив.
12.15 Победитель.
12.35 Лучшие хиты MTV.
13.05 Вершина мира.
13.25 Форум национальных культур Беларуси.
13.40 Авто-парк.
13.55 "Дикий юг".
14.25 Гости в дом.
14.35 Театр в кресле.
15.15 Поздравляем вас!
16.05 Мост.
16.30 Бездельник.
17.00 Закрытие Форума национальных культур Беларуси.
18.00 Банка комиксов.
18.30 "Анна Каренина". с. 2.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Спортивный телекурьер.
20.55 Новости-ТВ.
21.10 Карамболь.
21.45 "И корабль плывет". с. 2.
23.05 Телевизионный Дом кино.
23.35 Бархатный сезон.
0.05 Чемпионат Беларуси по культуризму.

**ОРТ**
7.00 "Ералаш".
7.20 Тираж "Спортлото".
7.30 Комедия "Я, бабушка, Илико и Илларион".
9.00, 14.00, 23.20 Новости.
9.15 Непутевые заметки.
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 Служу России!
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 Провинциальные истории.
12.25 Очевидное-невероятное.
12.55 Смехопанорама.
13.25 "Тайны пиратских кладов".
14.20 Музыка в эфире.
15.05 Как-то раз.
15.15 Клуб путешественников.
16.05 Мультфейерверк.
17.10 Концерт Вахтанга Кикабидзе.
18.05 Клуб "Белый попугай".
19.00 Время.
19.40 Фильм "Кабаре".
22.05 Футбольное обозрение.
22.35 "Три сестры". спект.
23.40 Любовь с первого взгляда.
0.25 MTV.

**Канал "Россия"**
7.00 В этот день...
7.10 Всего понемногу.
8.00 Не вырубить...
8.15 Вас приглашает газета "Иностранец".
8.30 Гостиница деда Мазая.
8.45 Большие-маленькие.
9.00 Футбол без границ.
9.30 Честь имею!
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Русское лото.
10.55 Мультфильм.
11.05 Звуковая дорожка.
12.00 Истоки.
12.30 Книжная лавка.
13.00, 22.50 Вести.
13.20 Клип-антракт.
13.25 "Женщина со средствами". Т/ф.
14.15 Караоке по-русски.
14.35 Империя игр.
15.30 Воспоминания об учителе...
16.00 Колесо истории.
17.00 Волшебный мир Диснея.
17.55 Момент истины.
18.45 Клип-антракт.
19.00 Зеркало.
19.55 Погода на завтра.
20.00 "Тридцать три". Х/ф.
21.25 Поцелуй в диафрагму.
22.20 У Ксюши.
23.05 Рек-тайм.

**IV канал, НТВ**
7.00 Прикосновение.
8.00 Ритмика.
8.15 Ключевой момент.
8.30 Анонс Семейного канала.
8.35 Это все о цветах.
8.55 Телегазета.
9.00 Семейный канал.
9.20 Вернисаж.
9.35 Полезные советы.
9.55 Графоман.
10.05 Семейный канал.
10.30, 13.30, 16.45 СИВ.
10.40 Пенсион.
10.45 Юмориста вызывали?
11.00 ТВ-клуб охотников.
11.30 Семейный канал.
12.00 "Частная история". Х/ф.
12.20 Компьютерная энциклопедия.
12.35 "Неизвестные войны". Ф. 2. "Операция "Z".
13.35 Домашние питомцы.
13.55 Волейбол. Мировая лига.
15.10 Дивертисмент.
15.40 "Бурда моден" предлагает...
16.15 Подъем переворотом.
17.00 "Полицейский Кэттс и его собака".
17.30 Сто к одному.
18.00 Сегодня.
18.30 Овация.
19.00 "Полиция Майами. Отдел нравов".
20.00 Итоги.
21.10 Мир кино. "Лицо со шрамом".
23.55 Автогонки "Индикар".

**Санкт-Петербург**
8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ "Сейчас".
9.05 "Большой прием во Дворце". Т/ф.
9.20 "Эрмитаж. Зал номер ноль". Д/ф.
9.45 Весь этот цирк.
10.05 Стиль жизни.
10.20 Пасхальный фестиваль.
11.05 Личное дело.
11.35 Еще одна Россия.
12.20 Овертайм.
12.35 Храм.
13.10 "Иосиф Бродский. Немного о себе." Т/ф.
13.50, 17.35 Посвящается Дню города.
15.05 Телемост.
16.35 Детское ТВ.
19.10 "Проводы белых ночей". Х/ф.
20.35 "Статуи над городом". Т/ф.
21.05 Петербургские звоны.
21.30 Ноу смокинг.
22.15 Международное обозрение.
22.40 Заключительный концерт Международного фестиваля "Музыкальная весна-96".

СОСЕДИ

# Вся надежда на бога?

Опрос, проведенный московским фондом "Общественное мнение" среди городских жителей Российской Федерации со средним и специальным образованием (было опрошено 9 тыс. человек), показал, что чем ниже доходы россиян, тем больше они верят в Бога.

Так, религиозными себя назвали 40 % граждан, получающих 50—200 тыс. рублей в месяц, 30 % с ежемесячным доходом в 201—600 тыс. рублей и 23 % с доходом в 601 тыс.—1 млн. рублей.

Но следует отметить, что набожными себя считает каждый третий преуспевающий предприниматель, доходы которого выше 1 млн. рублей.

Опрос фонда установил еще одну закономерность: чем выше доходы респондентов, тем меньше среди них дипломированных специалистов. Так, среди граждан, зарабатывающих свыше 600 тыс. рублей в месяц, дипломированных специалистов всего 7-8 %. Вероятнее всего, молодые предприниматели надеются в своих делах на Бога, а не на высшее образование.

# На Красной площади будет кусочек Лас-Вегаса

Звезда американских боевиков Чак Норрис заключил сделку на строительство в районе Красной площади в Москве суперклуба и казино (он же будет управлять этим заведением). За реализацию проекта возьмется французская фирма, которая в настоящее время реставрирует Лувр. Функционировать же клуб Норриса будет по образцу аналогичных предприятий Лас-Вегаса — столицы игорного бизнеса Америки.

# Золото из крематория

В Москве возобновилась практика сдачи крематориями бесхозного золота, прерванная пять лет назад.

Сдано уже более 50 килограммов драгоценных металлов. Об этом было сообщено на брифинге в ГУВД. По существующему порядку, возвращение родственникам покойных золотых зубов возможно только до кремации, после нее, как было принято до 1991 г., они сдавались государству. По словам представителей правоохранительных органов, эту инструкцию никто не отменял, о ней просто забыли.

# Вологда: по 8 литров «на брата»

По данным областного комитета по статистике, в минувшем году каждый житель Вологодской области употребил в среднем свыше 8 литров алкогольных напитков, что в несколько раз превышает общероссийские показатели.

*PostFactum*

# У Віцебску адзначылі гадавіну рэфэрэндуму бел-чырвона-белымі сцягамі

**У ноч з 13 на 14 траўня "неустановленные лица" вывесілі два нацыянальныя сцягі на коміне Віцебскай ЦЭЦ.**

Гэта адна з самых высокіх кропак у горадзе, і залезці туды не так проста. Адміністрацыя ЦЭЦ лічыць, што гэта "дело рук" мінскіх рамонтнікаў, якія цяпер працуюць на станцыі.

Цікавай была таксама рэакцыя начальства: пабачыўшы з раніцы бел-чырвона-белыя сцягі, яны адразу ж выклікалі работнікаў КДБ і міліцыі, якія тут жа прыбылі на месца "дыверсіі". Але самі яны на комін пабаяліся лезці (вышыня каля 100 м), а загадалі выканаць гэтую місію тром рамонтнікам. Карэспандэнтаў мясцовых газет, якія ўслед за міліцыяй прыехалі на прадпрыемства, на тэрыторыю ЦЭЦ не прапусцілі.

Як бы там не было, але прыклад няўлоўнага "Мірона", які ўжо двойчы вывешваў бел-чырвона-белы сцяг у Лёзна на самым высокім коміне, знаходзіць новых паслядоўнікаў на Віцебшчыне.

**Уламідзімір СУПРУНЁНАК**

*На здымку: нацыянальныя сцягі на коміне Віцебскай ЦЭЦ*



СПОРТ

# Рэабілітацыя «Баварыі»

**ФУТБОЛ**

Кубак *UEFA* ўпершыню заваявалі футбалісты мюнхенскай "Баварыі". У другім фінальным матчы з французскім "Бардо" яны перамаглі на полі суперніка — 3:1 (Шоль, Кастадзінаў, Клінсман). Першы матч таксама выйгралі германцы — 2:0. Такім чынам, баварцы рэабілітавалі сябе за няўдалы фініш у нацыянальным чэмпіянаце, дзе яны саступілі пальму першынства дортмундскай "Барусіі".

Пяты тур адсеяў з квартэта лідэраў нацыянальнага чэмпіянату "Дынама-93". "Дзевяноста трэція " прайгралі сваім землякам — тарпедаўцам — 1:2. Чацвёртую перамогу запар атрымаў дэбютант вышэйшай лігі — наваполацкі "Нафтан-Дэвон", які перамог у гасцях магілёўскі "Днепр" з такім жа лікам. Яшчэ двойчы госці перамаглі з лікам 2:1. Так, бабруйская "Белшына" нанесла паражэнне лідскаму "Абутніку", а мазырскі МВКЦ — брэсцкаму "Дынама". Дарэчы, мазыране, як і мінская "Атака-Аўра", выйгралі пятую гульню запар і працягваюць стаяць на чале чэмпіянату. У астатніх матчах лік быў такім: "Тарпеда" (Магілёў) — "Дынама" (Мінск) — 0:1, "Нёман" (Гродна) — "Атака-Аўра" — 0:1, "Лакаматыў-96" (Віцебск) — "Маладзечна" — 2:0, "Шахцёр (Салігорск) — "Ведрыч" (Рэчыца) — 1:0. Турнірная табліца выглядае некалькі нязвыкла. Наперадзе нядаўнія дэбютанты — МВКЦ і "Атака-Аўра" — па 15 ачкоў, толькі на трэцім месцы мінскія дынамаўцы — 13, далей "Нафтан-Дэвон" —12, "Дынама-93" і "Тарпеда" (Мінск) — па 10, "Белшына" — 9, "Лакаматыў-96" — 8, Маладзечна — 5, "Днепр" і "Шахцёр" — па 3, Дынама" (Брэст) і "Тарпеда" (Магілёў) — па 2, "Абутнік", "Ведрыч" і "Нёман" — па 1.

З Еўрапейскага саюза футбольных асацыяцый *(UEFA)* паведамілі, што паводле вынікаў інспекцыйнай праверкі магілёўскі стадыён "Спартак" атрымаў права прымаць міжнародныя афіцыйныя матчы любога рангу. Да гэтай пары ў нас такі сертыфікат меў толькі мінскі стадыён "Дынама". Стадыён у Маладзечне прыгодны для папярэдніх еўракубкавых гульняў, а таксама паядынкаў маладзёжнай, юнацкай і жаночай зборных.

**ФУТЗАЛ**

У фінальным турніры на Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў мінскі "Атлант" заняў 4-е месца, а перамагла славацкая каманда "Сеніца".

**ПЛАВАННЕ**

На міжнародных спаборніцтвах у Марыборы (Славенія) вызначыліся беларускія плыўцы. У плаванні на 100 м вольным стылем перамаглі Алег Рухлевіч і Алена Попчанка, 100 м брасам хутчэй за ўсіх праплылі Аляксандр Гукаў і алімпійская чэмпіёнка Алена Рудкоўская.

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

На Кубку Беларусі ў Гомелі рэкорд краіны ў бегу на 400 м устанавіла віцебская спартсменка Ганна Козак — 51,37 с. Наталля Сафроннікава выйграла абедзве спрынтэрскія дыстанцыі, прычым на 200 м з часам 23,21. Сюрпрыз паднесна Нэлі Варанкова, якая ўпэўнена абыграла ў бегу на 400 м з бар'ерамі чэмпіёнку свету і Алімпійскіх гульняў Таццяну Лядоўскую. Скачкі ў вышыню скончыліся перамогай Таццяны Храмавай, якая пераадолела 1 м 87 см, а скачкі ў даўжыню — перамогай Ларысы Кучынскай, якая скокнула на 6 м 64 см. Сярод мужчын лепш за іншых выглядалі спартсмен па скачках у даўжыню Аляксандр Главацкі — 8 м 11 см, штурхальнік ядра Дзмітрый Ганчарук — 19,71, дыскабол Генадзь Пронька — 63,06, "малатабоец" Аляксандр Красько — 76,36. Някепска прабеглі 200 м Аляксандр Слюнькоў — за 21,30 і Леанід Сафроннікаў — 21,39. Дзмітрый Кацянкоў круг па стадыёне праімчаў за 47,10.

А наш знакаміты кідальнік молата Ігар Астапковіч з перамогі пачаў выступленні на этапах Гран-пры. У Осака (Японія) ён кінуў молат на 79 м 36 см.

**ХАКЕЙ**

У Нацыянальнай хакейнай лізе *(NHL)* вызначыліся амаль усе паўфіналісты. Хутчэй за ўсіх з задачаю справіліся хакеісты "Пітсбурга", якія перамаглі "Нью-Йорк Рэйнджэрс" у пятым матчы — 7:3 і ў серыі — 4:1. На гульню больш правялі "Флорыда Пантэрс", якая адолела "Філадэльфію Флаерз", і "Каларада Эвеланж", што перайграла "Чыкага Блэк Хоўкс" з агульным лікам 4:2. А вось у серыі "Дэтройт Ред Уінгз" — "Сент-Луіс Блюз" некалькі нечакана завязалася вострая барацьба. Пераможцы рэгулярнага чэмпіянату хакеісты "Дэтройта" выйгралі першыя два матчы, але затым сенсацыйна саступілі ў наступных трох. Апынуўшыся на мяжы вылету з плэй-оф, "Чырвоныя крылы" мабілізаваліся і зраўнялі лік у серыі — 3:3. Пераможцу вызначыць сёмы матч. Трэба зноў адзначыць ролю асобы ў гісторыі, у прыватнасці, у спорце. Поспех "Пітсбурга" прыносяць Марыё Лем'ё і Ярамір Ягр, кожны з якіх закінуў па 10 шайб. У "Каларада" на вышыні Джо Сакік, Валерый Каменскі і Сандзіс Озаліньш, гульнёй "Сэнт Луіса" дырыжыруе Уэйн Грэтцкі. Як толькі "прытармазіла" руская пяцёрка, то забуксавала ўся каманда.

**БАСКЕТБОЛ**

Падобная карціна назіраецца і ў Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыі *(NBA)*. "Чыкага Булз", як і чакалася, спакойна прайшоў "Нью-Йорк Нікс" — 4:1. "Сіэтл Суперсонікс" вывела з барацьбы двухразовых пераможцаў апошніх год баскетбалістаў "Х'юстан Рокетс" — 4:0, "Арланда Мэджык" лідзіруе супраць "Атланта Хоўкс" — 3:1, а "Юта Джаз" — супраць "Сан Антоніа Сперз" — 3:2.

**ШАХМАТЫ**

На буйным шахматным турніры ў Мадрыдзе няроўна гуляе наш зямляк Барыс Гельфанд. Пасля 4 тураў ён быў аднаасобным лідэрам — 3 ачкі, але наступныя два паражэнні адкінулі Барыса ў сярэдзіну турнірнай табліцы. А лідзіравалі пасля шасці тураў Весялін Тапалаў (Балгарыя), Мігель Ільескас (Іспанія) і Валерый Салаў (Расія).

**ВЕЛАСПОРТ**

Традыцыйная велагонка міру па дарогах Чэхіі, Германіі і Польшчы праходзіць пад знакам перавагі нямецкага гоншчыка Штэфана Веземана. Больш мінуты выйграе ён у шведа М.Андэрсана і свайго суайчынніка Т.Лізэ.

**Сямён ПЛОЦ**

# Каўбой з ветэранамі не ўжыўся

**Вуліцы ў Гродне, як і сталічныя, аздабляюць вялікія рэкламныя шчыты з амерыканскім каўбоем, які прапагандуе цыгарэты *Marlboro*.**

У адным месцы гарадскія ўлады вырашылі шчыт з двухбаковай рэкламай *Marlboro* з аднаго боку заляпіць фотаплакатам з ветэранамі, прысвечаным Дню Перамогі. Нейкія зламыснікі, аднак, перапэцкалі яго карычневай фарбай для падлогі. Давялося святочны плакат прыбраць.

Пакуль невядома, ці гэта зрабілі аматары амерыканскіх цыгарэт, якіх цяпер днём з агнём не знойдзеш, ці, можа, самі ветэраны. Апошнія лічаць неспалучальнымі такія розныя рэчы — Дзень Перамогі і *Marlboro*. Шмат каго з пажылых людзей вельмі абурае рэклама амерыканскіх цыгарэт, якая літаральна апанавала горад. Улады, аднак, як заўсёды, схільныя бачыць у факце пашкоджання святочнага плаката "палітычную правакацыю". Міліцыя нават завяла крымінальную справу. Мабыць, будзе высвятляць, хто ў навакольных дамах фарбаваў у гэтыя дні падлогу.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

# Магілёўскі цырульнік

**Магілёўскі цырульнік-мадэльер Герман Дземчанка патрапіў у лік 10-ці пераможцаў прэстыжнага міжнароднага конкурсу, які праходзіў у Аўстрыі.**

У гэтым конкурсе бралі ўдзел 66 майстроў з усіх краін Еўропы. Гэтае дасягненне дала магілёўскаму майстру права ўдзельнічаць у чэмпіянаце свету паміж цырульнікамі. Ён там будзе адзіным прадстаўніком нашай краіны. Праблема, аднак, у тым, ці знойдзе сп.Дземчанка грошы, каб паехаць на чэмпіянат у ЗША. Дарэчы, Герман Дземчанка раіць на гэты летні сезон падоўжаныя стрыжкі з філіроўкай каля каранёў валос і дакладнай акантоўкай. Доўгія прычоскі не павінны быць аб'ёмнымі. Моднымі будуць чырвона-рыжы і бландзіністы колеры.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

***Дарэчы:** днямі ў Віцебску былі затрыманыя трое рэкеціраў, якія вымагалі ў старшыні беларускай асацыяцыі цырульнікаў 25 тысяч долараў.*



# Як сын пагаварыў з бацькам

**13-гадовы сын забіў свайго бацьку.**

Гэта здарылася ў Крычаўскім раёне. Яны нешта не падзялілі ў час вячэрняй размовы. Вынік "разборкі" быў сумны. Бацьку знайшлі мёртвым з рассечанай шыяй і грудной клеткай.

**Іван ЗАСАДА**

# У заапарку бывае небяспечна

**У Гродзенскім заапарку адбылося няшчаснае здарэнне.**

Поні ўбрыкнуў капытом у галаву 10-гадовую дзяўчынку. Яна памерла ў шпіталі.

**В. В.**

# Канфлікт у брэсцкай філіі Саюза палякаў

**У Брэсце справаздачна-выбарчая канферэнцыя абласнога аддзялення Саюза палякаў Беларусі стала сапраўдным скандалам.**

Непаразуменні ў брэсцкай філіі СПБ існавалі даўно, часам яны выліваліся на старонкі мясцовай прэсы. Але на гэты раз давялося нават выклікаць міліцыю, каб процістаянне бакоў не перарасло ў бойку. А ўзнік канфлікт з-за таго, што групу мясцовых актывістаў СПБ, якія выступаюць супраць цяперашняга кіраўніцтва арганізацыі (гэта пераважна жанчыны), не дапусцілі да ўдзелу ў канферэнцыі, а таму яны паспрабавалаі прарвацца сілаю праз выстаўленыя пасты дзяжурных. Прарыў не ўдаўся, але пасля ўмяшальніцтва міліцыі і работніка аблвыканкама два прадстаўнікі незадаволенага боку ўсё ж такі атрымалі слова.

Па словах прадстаўнікоў пакрыўджаных, прычынай іхняга недаверу да кіраўніцтва з'яўляецца размеркаванне гуманітарнай і грашовай дапамогі, якая паступае палякам з-за мяжы. Нягледзячы на канфлікт, у выніку тайнага галасавання абсалютная большасць зноў выказала давер Антону Філіпчуку.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 42.500
Нумар падпісаны ў друк 16.05.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 238